


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 7 (178) КРАСАВІК 2014 ГОДА

**Цытата нумара:**

*Майце на ўвазе: Інтэрнэт — ня новая форма жыцця, а проста новы занятак.*

*Эстэр Дайсан*

БУДАЎНІЦТВА

## ФАНТАСТЫЧНЫЯ ЛІЧБЫ АД БЕЛТА

**12 красавіка дзяржаўнае інфармагенцтва БЕЛТА распаўсюдзіла фантастычныя лічбы будаўніцтва жылля ў Гарадку на гэты год – 170 тысяч кв.м.. Карэспандэнт БЕЛТА спасылалася на выказванне старшыні Віцебскага аблвыканкаму Аляксандра Косінца пад час суботніка.**

Нагадаем, што на суботніку 12 красавіка ў Гарадку працаваў вялікі дэсант з аблвыканкамаўскіх чыноўнікаў.

"Каля 170 тыс.кв.м жылля для 10 тыс. чалавек будзе пабудавана ў бягучым годзе ў Гарадку, паведаміў сёння журналістам старшыня Віцебскага аблвыканкама Аляксандр Косінец, перадае карэспандэнта БелТА.

Новы жылы мікрараён будзе ўзведзены каля цэнтральнай раённай бальніцы, сказаў кіраўнік вобласці .

Плануецца таксама значна пашырыць прамысловы патэнцыял Гарадка. "Будзе створана 10 прадпрыемстваў. Сваю вытворчасць тут размяшчае "Белвест", з Бешанковічаў перадыслацыраваўся "Ланатекс". Будзе пабудаваны сучасны рынак на 100 месцаў, каля Br70 млрд плануецца ўкласці ў матэрыяльна-тэхнічную базу двух каледжаў", - сказаў Аляксандр Косінец."

Рэдакцыя сайта пацікавілася статыстыкай уводу жылля на Віцебшчыне і ў Гарадку за мінулы год і вось пра што даведалася.

Па дадзеным Нацыянальнага статыстычнага камітэта ў 2013 годзе на Віцебшчыне было пабудавана 360 218 кв. м. жылля ва ўсіх гарадах і раёнах вобласці. Пры гэтым падзенне будаўніцтва жылля ў паўночным краіе Беларусі склала 10,6% ад узроўня 2012 года – самае вялікае памяншэнне ўводу жылля сярод рэгіёнаў краіны, як у працэнтах так і ў абсалютных лічбах. Пры гэтам у раёнах Віцебшчыны было пабудавана ўсяго 151 736 кв.м. жылля. Яшчэ горшыя лічбы будаўніцтва жылля былі па Гарадоцкаму раёну: усяго ўведзена ў мінулым годзе 3910 кв.м. жылля, што склала толькі 57,5% ад папярэдняга года. Найбольшая колькасць жылля ў раёне за апошнія гады ўводзілася ў 2010 годзе – 11620 кв.м…

Відавочна, што пабудаваць за год ды і за пяцігодку 170 тыс. кв. м. жылля не рэальна. Бо на гэта пры сярэднегадавых аб'ёмах уводу жылля трэба выканаць амаль 30-гадавы план жыллёвага будаўніцтва. Толькі ніякага ўдакладнення накont фантастычных лічбаў ад БЕЛТА няма. Як няма ўдакладненняў і па прывядзенню ў парадак біятлоннай трасы, на якую яшчэ няма канчатковай праектнай дакументацыі. Няма праўдзівай інфармацыі і аб выкананні вялікіх аб'ёмаў працы на Доме рамёстваў, які разбураны будаўнікамі яшчэ месяц таму і рэканструяваць яго па існуючаму праекту немагчыма.

**Леанід Гаравы**

ДАБРАЎПАРАДКАВАННЕ

## ВЫЗНАЧЫЦЬ ВОДААХОЎНУЮ ЗОНУ І ШТРАФАВАЦЬ ПАРУШАЛЬНІКАЎ

**Вялікая колькасць азёр і вадаёмаў Гарадоччыны не могуць быць самі па сябе прываблівымі, калі іх берагі загрувашчаны смеццем, а ўсе парушальнікі адміністрацыйнага заканадаўства не прыцягваюцца да адказнасці**

Мінула дзесяць гадоў, як была абвешчана кампанія па дабраўпарадкаванню мястэчаў і вадаёмаў. Дзесяць гадоў назад на берагах азёр, якія размешчаны каля Гарадка -- Лугавое, Арэхавае, Шчарбакоўскае прадпрыемствамі горада былі пабудаваны альтанкі, сталы, лавы і іншыя малыя формы. Але за дзесяць гадоў амаль усе яны знішчаны недабрасумленнымі грамадзянамі на распальванне вогнішчаў і г.д..

Апошняй мусіць недабуранай альтанкай застаецца альтанка на беразе возера Лугавое ў Варабьёвых гарах. Мясцовыя вандалы яшчэ не да канца сарвалі з яе дошкі для вогнішча.

Побач яе стаіць транспарант, які паведамляе аб адказнасці за парушэнне правілаў знаходжання ў 30 мятровай водаахоўнай зоне возера Лугавое.

Але парушальнікі заканадаўства мала звяртаюць увагі на транспарант, пакідаючы за сабой кучу смецця, як каля стацыянарнага бака, так і каля імправізаванай сметніцы.

Відавочна, што да транспаранта аб 30 мятровай водаахоўнай зоне неабходна і вызначаць саму мяжу гэтай ахоўнай зоны. Толькі ні дзе, каля пляжаў на гарадоцкіх азёрах, гэта мяжа не пазначаецца. Вось і паркуюць кіроўцы свае аўтамашыны каля самай вады, часама і мыючы іх у возеры. Стацыянернай жа аўтамыйкі ў Гарадку няма да гэтага часу.

Абвешчаная БРСМ кампанія "Чысты вадаём" будзе тады пасляховай, калі пасля яе правядзеннем будзе ўзмоцнены кантроль за выкананнем прыродаахоўнага заканадаўства каля вадаёмаў, як зялёнымі патрулямі, так і дзяржаўнымі інспектарамі.

**Т. Гаражанка**

**САЙТ ТВАЙГО ГОРАДА HTTP://HARADOK.INFO**

ДАБРАЎПАРАДКАВАННЕ?

## АГАРОДНІЦТВА ЦІ ЗАПУСЦЕННЕ?

**Жыхары вул. Гагарына, якія апрацоўваюць кавалкі зямлі каля гаражнага кааператыва, ня ведаюць як быць з пасяўной кампаніяй у гэтым годзе.**

З часоў утварэння мікрараёна Гарадоцкай птушкафабрыкі на вул. Гагарына, а гэта 70-я гады мінулага стагоддзя, руплівыя грамадзяне распрацавалі пустуючую зямлю на няўдобіцах і займаліся на ёй агародніцтвам не адно дзесяцігоддзе. Апрацоўваемых кавалкаў зямлі набралася больш паўсотні: ад дома №32 па Гагарына да вул. Стараполацкай.

За гэтыя амаль сорак гадоў ніякія землеўстройчыя арганізацыі Гарадка не мелі пытанняў да грамадзян, якія падтрымлівалі свой бюджэт дробным агародніцтвам: вырошчваннем таматаў у цяпліцах, цыбулі, часнаку, трускавак і г.д.. Але сітуацыя змянілася ў сувязі з падрыхтоўкай да "Дажынак", калі камунальныя службы сталі патрабаваць спынення апрацоўкі зямлі, ліквідацыі цяпліц. Грамадзянам, якія апрацоўваюць няўдобіцы такі падыход незразумелы.

Ва ўсім свеце ўлады заахвочваюць грамадзян да самазанятасці па вырошчванню гародніны, апрацоўцы пустуючай зямлі. Гэтаму працэсу надаюць законныя формы – зямля афіцыйна замацоўваецца за грамадзянінам, за яе выкарыстанне ён плаціць зямельны падатак і адказвае за падтрыманне на ёй парадку. Нашы ж чыноўнікі жадаюць ісці па шляху найменьшага дзеяння – забараніць агародніцтва на ўжо гістарычна апрацоўваемых участках зямлі. Замест таго, каб устанавіць межы кожнага ўчастка, увесці адказнасць за яго выкарыстанне, падтрыманне парадку прапануецца забараніць працу на дагледжанай зямлі.

Пасля такой забароны пустуючая зямля спрэс пакрыецца пустазеллем і камунальнікам давядзецца самім з ім змагацца, выдаткоўваць бюджэтныя рэсурсы. І гэта замест таго, каб салідарна перадаць адказнасць грамадзянам, якія жадаюць апрацоўваць зямлю. На месце ўладаў даўно трэба было ўзаконіць апрацоўку зямлі грамадзянамі, а не займацца забаронай агародніцтва каля гаражнага кааператыва. Але так даўно было б калі б мясцовая ўлада рэальна абіралася самімі грамадзянамі.

**Леанід Гаравы**

РЫНАК ПРАЦЫ

## БОЛЬШ ВУЧЫСЯ, МЕНШ ЗАРАБЛЯЙ

**Асобам з вышэйшай адукацыяй заробкі прапануюцца значна ніжэйшыя, чым гандлярам або леснікам. На рынку працы Гарадоцкага раёна па-ранейшаму запатрабаваны гандляры, работнікі лясной гаспадаркі, а таксама лекары. Толькі лекарам заробкі прапануюцца значна ніжэйшыя, чым гандлярам або вальшчыкам лесу**

Па стану на 18 красавіка ў базе даных вакансій Міністэрства па працы і сацыяльнай абароне па Гарадоцкаму раёну прапануецца 40 вакансій на 84 працоўных месца. Больш паловы гэтых месцаў – 44 – прапануецца ў Гарадоцкім лясгасе ААТ "Віцебскдрэў". Гэта працоўныя месцы рамшчыкаў (2 млн. руб), станочнікаў па дрэваапрацоўцы (2 млн. руб.), дравасекаў (2 млн. руб), майстроў леса (3,5 млн. руб), ляснікоў (3 млн. руб), вальшчыкаў лесу 6 разр. (3 млн. руб).

Больш 15 вакансій маецца і ў Гарадоцкім райспажыўсаюзе, дзе найперш патрэбны гандляры з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй, якім, пры наяўнасці 4 разраду, у крамах "Хлебны", "Юбілейны", "Універсам" (Гагарына) прапануецца заробак у 3,5 млн. рублёў.

З'явіліся ў базе даных вакансіі і лекараў для Гарадоцкай райбальніцы. Тут для спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй прапануецца наступная праца: афтальмолага – 2,6 млн. руб, педыятра – 2,48 млн. руб , эндакрынолага – 2,25 млн. руб.

Нагадаем, што апошні сярэдні афіцыйны заробак па Гарадоцкаму раёну за студзень месяц склаў 3, 807 млн. руб або 80,2% ад абласнога ўзроўня. У сваю чаргу сярэдні заробак па Віцебскай вобласці склаў у студзені 4,749 тыс. руб. або 89,2% ад сярэднерэспубліканскага ўзроўня у 5,322 млн. рублё за студзень гэтага году.

**Л. Антонаў**

МЯСЦОВАЯ ЎЛАДА

# ІНТЭР-НЕ РАЁННАГА МАШТАБУ

**Карэспандэнт «Сельской газеты» Анатоль Пранішнікаў піша пра тое, як Гарадоцкі райвыканкам, як і іншыя райвыканкамы Віцебскай вобласці, выкарыстоўваючы кампутар у якасці пішучай машынкі застаюцца ў мінулым стагоддзі**

Прэс-служба МЗС распаўсюдзіла паведамленне аб тым, што Беларусь вывучае вопыт Сінгапура па развіцці электроннага ўрада. Добрая справа, у Сінгапуры ёсць што вывучаць. Згодна з дакладам ААН у галіне электроннага ўрада за 2012 год, гэта астраўная дзяржава абагнала усе краіны свету , уключаючы ЗША. Сёння тут ўкаранёна больш за 1600 электронных паслуг, якія ахопліваюць усе сферы грамадскага жыцця і ўзаемадзеяння чалавека з дзяржавай.

Вядома, нам пакуль што да Сінгапура - як да Месяца, асабліва на раённым узроўні. Калі рэспубліканскія і рэгіянальныя органы яшчэ спрабуюць ўкараняць ІТ-тэхналогіі, хоць і тут праблем хапае, то чым ніжэй звяно кіравання, тым менш Інтэрнэту.

ААН вызначае электронны ўрад як «пастаяннае паляпшэнне адносін паміж прыватным тварам і дзяржаўным сектарам з дапамогай эканамічна эфектыўнага і дзейснага прадастаўлення паслуг, інфармацыі і ведаў».

І вылучае пяць катэгорый вэб-прысутнасці дзяржавы ў жыцці грамадства: з'яўленне - пашырэнне - узаемадзеянне - транзакцыі і поўная інтэграцыя. Дык вось, па тэрміналогіі ААН большасць нашых мясцовых органаў улады, калі не ўсё, знаходзяцца на першай, самай ніжэйшай прыступкі свайго электроннага развіцця. Так, яны з'явіліся ў Сетцы, але іх прысутнасць шмат у чым фармальна. Інтэрнэт-сайты большасці райвыканкамаў мёртвыя і статычныя, яны не плануюць ні адносін, ні ўзаемадзеяння з грамадствам. У асноўным гэта візітныя карткі раёнаў, зробленыя пад капірку. Нейкую інфармацыю яны змяшчаюць, але вельмі далёкую ад мэт электроннага ўрада. Тым больш што нават гэтая мінімальная інфармацыя часцяком неактуальная .

Каб не быць галаслоўнымі, зазірнем на сайты райвыканкамаў, да прыкладу, Віцебскай вобласці. Нягледзячы на тое што з моманту выбараў у мясцовыя Саветы пайшла ўжо трэці тыдзень, амаль ўсюды ў раздзеле "Улада" - спісы дэпутатаў райсаветаў папярэдняга 26 склікання, хоць пасля 23 сакавіка яны значна абнавіліся. Могуць сказаць, што не ўсюды яшчэ прайшлі арганізацыйныя сесіі. Але гэта не аргумент, калі ўспрымаць Інтэрнэт як пастаянна абнаўляецца крыніца інфармацыі, а не як нешта аморфнае. Акрамя таго, у шэрагу раёнаў сесіі ўжо прайшлі. А склад райсаветаў застаўся той, які спыніў свае паўнамоцтвы.

Наогул, састарэлай інфармацыі на сайтах шмат. Такое адчуванне, што раённая вертыкаль туды проста не зазірае. Выканалі атрымanae калісьці даручэнне, заплацілі за стварэнне інтэрнэт - рэсурсаў і забыліся. Або справа ў нечым іншым?

«За студзень-снежань 2012 года ў сельскагаспадарчых арганізацыях надоена 27,6 тыс. тон малака, што на 4,8 працэнта больш за ўзровень 2011 года. Сярэдні надой малака ад каровы склаў 4653 кілаграмы малака, прыбаўка 43 кілаграма да адпаведнага перыяду мінулага года», - інфармуе сайт Лепельскага райвыканкама.

«У галіне жывёлагадоўлі на 1 кастрычніка 2012 года выраблена малака 21 тыс. тон, або 102,6 працэнта да ўзроўню мінулага года, - рапартуе інтэрнэт-рэсурс Гарадоцкага райвыканкама. - Удой малака ад каровы склаў 2942 кг (+61 кг да ўзроўню 2011 года)".

Чаму няма інфармацыі, як працавалі ў 2013 годзе, незразумела. Ці не таму, што рапартаваць няма чым? Па дадзеных Нацыянальнага статкамітэта, Лепельскі раён знізіў ўдой ад каровы на 267 кілаграмаў, валавая вытворчасць малака склала 99,3, а рэалізацыя і зусім 96,7 адсотка. У Гарадоцкім раёне ад каровы надаілі менш 2012-га на 131 кілаграм, вытворчасць і рэалізацыю знізілі на 3,4 і 7,1 працэнта. У выніку Лепельскі раён скаціўся па надоях на 56-е месца ў рэспубліцы, а Гарадоцкі і зусім на 100-е. Зразумела, чаму маўчаць мясцовыя сайты.

Дарэчы, з інфармаванасцю людзей - праблемы паўсюдна. Здавалася б, што прасцей: ёсць орган улады, ёсць што прымаюцца ім рашэння, ёсць выбаршчык, які мае права іх ведаць. І ёсць Інтэрнэт, здольны ўсё гэта аб'яднаць. Не атрымліваецца. Не таму, што складана, а таму, што не хочам. На ўсіх сайтах ёсць спецыяльныя раздзелы для публікацыі рашэнняў райсаветаў і райвыканкамаў. Аднак папаўняюцца яны - горш няма куды. Скажам, апошнія абнаўленне ў Дубровенскім, Гарадоцкім раёнах датуюцца лістападам - снежнем 2013 года, у Бешанковіцкім - аж лістападам 2012 года.

А бо рашэнні, што прымаюцца мясцовай уладай, закранаюць інтарэсы многіх людзей. Успомнім хоць бы леташнюю сітуацыю з АЧС , калі давялося прымаць абмежавальныя меры. Негатыўная рэакцыя насельніцтва ў шэрагу месцаў была выкліканая менавіта адсутнасцю інфармацыі. На сайце Валожынскага райвыканкама, напрыклад, так і не з'явілася яго рашэнне аб ліквідацыі свинопоголовья ў прыватным сектары. Няма там і памяткі насельніцтву па барацьбе з АЧС, хоць прафілактыка пры гэтай заразе - першая справа. Зрэшты, у Валожынскага інтэрнэт-рэсурсу наогул няма часткі для публікацыі рашэнняў мясцовых органаў. Навошта народ бударажыць...

Прачытаў у Інтэрнэце афрыканскую прыказку : «Калі змяняецца рытм барабана, трэба мяняць і рухі танца». Не, не выпадкова ідзэя электроннага ўрада дайшла нават да чорнага кантынента. Рытм сучаснага жыцця настолькі імклівы і шматгранны, што кіраваць грамадствам па-старому становіцца немагчыма. Выкарыстоўваць кампутар у якасці пішучай машынкі, як гэта яшчэ бывае ў беларускай глыбінцы , - значыць назаўсёды застацца ў мінулым стагоддзі.

**Анатоль Пранішнікаў «СГ»**

ЗДАРЭННЕ

# ДВА П'ЯНЫХ ВАРТАЎНІКА ЗЛАДЗІЛІ РАЛІ

**Два вартаўніка, якія знаходзіліся на дзяжурстве, пасля сумеснага распівання спіртнога, вырашылі пакатацца на трактарах, якія стаялі на ферме КУСГП імя Свярдлова ў Гарадоцкім раёне.**

Нажаль, ралі трактароў скончылася даволі хутка - гоншчык на «Амкадоры» знёс вароты, той, каму дастаўся трактар паменш, і зусім затрымаўся ў гнаявой яме. Затым вартаўніка спрабавалі выцягнуць з ямы трактар «Амкадорам», пакуль у апошняга не скончылася паліва.

Дзеянні гоншчыкаў, як паведамляе сайт УУС Віцебскага аблвыканкама, крымінальным кодэксам кваліфікуецца як угон, учынены групай асобаў. А частка 2 артыкула 214 прадугледжвае пакаранне ў выглядзе абмежавання на тэрмін ад 2 да 5 гадоў або пазбаўлення волі на тэрмін ад 2 да 7 гадоў.

**ННВ**

ГАНДАЛЬ

# НАБЫЦЬ КУРАНЯ РОЗНЫХ ПАРОД

**“Беларуская ніва” паведаміла чытачам аб продажы куранят насельніцтву на птушкафабрыках Беларусі. Гарадоцкая птушкафабрыка прапануе кураня па самых нізкіх коштах на Віцебшчыне.**

Аматары птушкагадоўлі могуць да канца траўня набываць на птушкафабрыцы кур-нясушак хайсекс карычневых коштам па 28 тысяч, а рамонтны маладняк – хай-лайн белы ва ўзросце 116 дзён па 55 тысяч па красавік, а хай-лайн карычневы ва ўзросце 60 дзён будзе прадавацца з траўня коштам 40 тысяч.

Аналагічныя пароды курэй, напрыклад хайсэкс карычневы птушкафабрыка “Аршанская” прапануе па 50 тысяч, Глыбоцкая птушкафабрыка па 40 тысяч.

Гарадоцкая птушкафабрыка адзіная на Віцебшчыне, якая прапануе рамонтны маладняк хай-лайн, які быў выведзены амерыканскімі селекцыянерамі.

Гэтыя кросы самыя эфектыўныя па яйцаносаснасці. Так хай-лайн браун (карычневы) мае наступныя паказчыкі: для дарослых асобін ва ўзросце ад 19 да 80 тыдняў характэрная сярэдняя жывая маса (пры замерах ва ўзросце 72 тыдні) 2,25 кг.

Адзначаецца высокая эфектыўнасць расходу кармоў, паколькі пры спажыванні ежы на дзень да 115г. нясушкі могуць у год даваць ад 241 (да 60 тыдняў) да 339 яек (да 80 тыдняў). Працягласць прадуктыўнага перыяду ў нясушкі Хай- Лайн Браўн складае 153 сутак.

Дарослыя асобіны таксама непераборлівыя да ўмоў утрымання і адрозніваюцца добрым імунітэтам, паколькі захаванасць дарослых курэй і пеўнікаў не занадта адрозніваецца ад аналагічнага паказчыка ў больш раннім узросце - 94-98 % .

Тэлефоны для даведак на Гарадоцкай птушкафабрыцы:
802-139-5-08-25,
5-08-28,
4-52-79

**Т. Гаражанка**

ЭКАЛОГІЯ

# РАЗВІЦЦЁ СІСТЭМ ВОДАЗАБЕСПЯЧЭННЯ

**За апошнія два гады з раённага бюджэту не вылучаліся фінансы на капітальны рамонт, рэканструкцыю або новае будаўніцтва аб'ектаў водазабеспячэння і водаадвядзення. Гарадоцкі раён, як і большасць раёнаў Віцебшчыны, спадзяецца толькі на сродкі абласнога бюджэту**

Райвыканкамы павінны актыўна ўключыцца ў рашэнне праблем па забеспячэнню насельніцтва Віцебскай вобласці чыстай вадой. Такое меркаванне ў ходзе пасяджэння аблвыканкама выказаў начальнік упраўлення ЖКГ Віцебскага аблвыканкама Юрый Дзядзела, перадае карэспандэнт БЕЛТА .

Па словах начальніка ўпраўлення, пытанні забеспячэння насельніцтва якаснай пітной вадой на мясцовым узроўні вырашаюцца незадавальняюча, што выклікае шматлікія скаргі і звароты грамадзян.

Таксама ён падкрэсліў, што ў мінулым годзе на развіццё сістэм водазабеспячэння і водаадвядзення населеных пунктаў грашовыя сродкі з мясцовых бюджэтаў уклалі толькі Браслаўскі, Лепельскі, Талачынскі, Лёзненскі, Віцебскі, Ушацкі райвыканкамы і Віцебскі гарвыканкам. У 2014 годзе на гэтыя мэты прадугледжаны артыкулавыдаткаўуЛепельскім, Ушацкім, Віцебскім, Лёзненскім раёнах і горадзе Віцебску.

Для рэалізацыі мерапрыемстваў праграмы "Чыстая вада" Віцебскай вобласці на 2011-2015 гады ў бягучым годзе прадугледжана фінансаванне з абласнога бюджэту ў памеры Br42,2 млрд, у тым ліку на прыродаахоўныя мерапрыемствы каля Br10 млрд. Юрый Дзядзела падкрэсліў, што з усіх мерапрыемстваў праграмы самым маштабным па прыродаахоўнаму эфекту і ў фінансавым эквіваленце з'яўляецца будаўніцтва агульнагарадскіх ачышчальных збудаванняў у Полацку (1-я чарга), пачатых у 2008 годзе. Агульная будаўнічая гатоўнасць аб'екта складае 40%.

Па словах начальніка ўпраўлення, у бягучым годзе ўжо ўведзены ў эксплуатацыю пасля рэканструкцыі ачышчальныя збудаванні ў Дуброўна, завершана праектаванне сістэм каналізацыі ў Верхнядзвінску і Глыбокім. Для падтрымання спрыяльнай экалагічна бяспечнайсяроддзяплануецца правесці рэканструкцыю каналізацыйнага докера праз раку Заходняя Дзвіна ў Віцебску (раён ДСК - пасёлак Тарны), каналізацыйнага докера у Оршы, ачышчальных збудаванняў у Докшыцах, Расонах.

Акрамя гэтага, на бягучы год з абласнога бюджэту запланавана выкананне праектных работ па ачышчальных збудаваннях у Гарадку , а таксама аграгарадках Заронава і Вароны Віцебскага раёна.

**news.tut.by/society/396620.html**

## Аб’ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з’яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

**************

Наша газета “Гасцінец” пачала размяшчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле “Газета “Гасцінец”, дзе ствараецца архіў за мінулыя гады.

**************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

БЕЛАРУСКАЯ МАДЭЛЬ

# НОВЫ ЭТАП - ЭКАНАМІЧНЫ БАРДАК

**Пакуль кіраўнік дзяржавы кідаецца па краіне з мэтай выкаранення «бардака» на дзяржпрадпрыемствах, працэс дэіндустрыялізацыі беларускай эканомікі набірае абароты.**

11 красавіка Аляксандр Лукашэнка выявіў на тэрыторыі льнозавода ў Слуцку бруд і вялізныя кучы сыравіны. Канстатаваўшы «поўны бардак» і адсутнасць гаспадара, ён пераехаў на другое праблемнае прадпрыемства горада - Слуцкі мясакамбінат, дзе , як паведамілі афіцыйныя крыніцы, «звярнуў увагу на адсутнасць належнага парадку і непрыстойны ўмовы». Зазірнуў кіраўнік дзяржавы і ў халадзільныя памяшкання.

Іх візуальны агляд, сумешчаны з аналізам паветранага асяроддзя («Тут жа дыхаць няма чым!"), Скончыўся распараджэннем распачаць крымінальную справу і разабрацца па ўсіх пытаннях. Гэта было ўжо другое распараджэнне такога роду за дзень. Першае старшыня Камітэта дзяржаўнага кантролю Аляксандр Якабсон атрымаў яшчэ на ільнозаводзе.

Але адміністрацыйнай мяжой Слуцка спецаперацыя па навядзенні «належнага парадку» не абмяжуецца. Лукашэнка даў указанне: «Неадкладна удакладніце па краіне, ці ёсць такі бардак на нейкіх прадпрыемствах».

Улічваючы, што нават у асобна ўзятым Слуцку бардак ня стаўся адзінкавым, можна спрагназаваць , што шматлікім спецыялістам па ўліку бардака ў краіне беспрацоўе не пагражае.

**Добра працуюць там, дзе не перашкаджае дзяржава**

22 сакавіку 2002 года на семінары кіруючых работнікаў рэспубліканскіх і мясцовых дзяржаўных органаў Лукашэнка выступіў з дакладам, прысвечаным «беларускай мадэлі эканамічнага развіцця". Абмяжуюся ключавой цытатай: «Так, «беларуская мадэль развіцця» або "беларускі шлях развіцця" аб'ектыўна існуе. Усё, што сёння мы маем у эканоміцы, у сацыяльнай і іншых сферах, - вынік таго, што мы ўсе гэтыя гады ішлі сваім шляхам, мы жылі сваім розумам. Мы не слухалі «дактароў» з Міжнароднага валютнага фонду, якія прапісваюць лекі, што больш небяспечныя за саму хваробы».

Прайшло 12 гадоў, але ні адно слова не страціла актуальнасці. На аператыўных нарадах у Палацы Незалежнасці, падчас працоўных паездак па краіне кіраўнік дзяржавы рэгулярна дэманструе, чаго ўдалося дасягнуць, жывучы сваім розумам. Слуцкія кучы сыравіны і водар гнілых туш з агульнай карціны «дасягненняў» не выпадаюць. Роўна як і фінансавыя вынікі піваварнай галіны Беларусі, якая, як адзначыў кіраўнік дзяржавы на нядаўняй нарадзе, "сёння не проста кульгае, а знішчаецца» (пры тым што яшчэ сем гадоў таму былі прыняты рашэнні аб буйнамаштабным тэхнічным пераасnашчэнні піваварных заводаў і г.д.).

Загульнай карціны выпадаюць віды эканамічнай дзейнасці, мінімальным чынам звязаныя з дзяржавай.

У першую чаргу - Парк высокіх тэхналогій (ПВТ). На прэс - канферэнцыі ў сакавіку яго дырэктар Валерый Цапкала паведаміў, што па выніках 2013 агульны аб'ём выручкі ПВТ склаў 525 млн. даляраў. 3 пункту ж гледжання ўкладу ў ВУП паказчыкі ПВТ, па словах Цапкала, сувымерныя з тымі, што давалі МАЗ, БелАЗ і МТЗ разам узятыя ў свае лепшыя гады.

Загульнай карціны выпадаюць і аператары мабільнай сувязі. Агульная колькасць абанентаў сотавай сувязі ў Беларусі на 1 студзень 2014 г склала, па дадзеных Мінсувязі, 11,1 млн.

Свой уклад у развіццё сотавай сувязі спрабавала ўнесці і дзяржава. Як тут не ўспомніць спробу РУП "Белтэлекам" і ДНВА «Агат» стварыць у 2004 годзе дзяржаўнага аператара сотавай сувязі «БеСТ». 3 фармальнага боку праблем не ўзнікла. Кампанію зарэгістравалі, выдалі ліцэнзію на аказанне паслуг сотавай сувязі, і да лета 2008 года яна давяла сваю долю на рынку да ... 2,5 %. Неўзабаве аўтсайдэр рынку быў прададзены турэцкай кампаніі Turkcell.

**Моцная ўлада бяссільная супраць законаў рынку**

Прыглядзімся да асаблівасцяў "беларускай мадэлі эканамічнага развіцця" з дапамогай аўтара - нязменнага прэзідэнта краіны.

Першая з іх, па яго думкі, - моцная і эфектыўная дзяржаўная ўлада. «Мы ж з самага пачатку, - растлумачыў Лукашэнка ўдзельнікам семінара ў далёкім ужо 2002 годзе, - ясна ўяўлялі, што дачаснае пашырэнне рынкавых адносін не дазволіць радыкальна вырашыць ні адну з існуючых самых вострых праблем. Затое створыць новыя, якія вынікаюць з спецыфікі рынку. Парушыцца грамадская згода, што прывядзе да канфліктаў і нестабільнасці. А бо палітычная стабільнасць - адна з галоўных умоў паступовай інтэграцыі ў сусветную эканоміку» .

Спрэчкі няма, стабільнасць у беларускім грамадстве падтрымліваецца, а вось з інтэграцыяй у сусветную эканоміку выйшла замінка. Як ні спрабаваў Захад «прымусіць быць такімі, як усе вакол нас, як яны, у рэшце рэшт», нічога ў яго не атрымалася. «Мы ім сёння як костка ў горле», - канстатаваў Лукашэнка ў пасланні народу і парламенту ў 2011 годзе.

Па сусьветных паняццях сучаснай дзяржавы - адміністрацыйная і падатковая. Яе актыўнасць абмяжоўваецца кіраўнічымі задачамі. Вытворчыя задачы перадаюцца праз аддзяленне ад яе рынку. Беларуская дзяржава застаецца дзяржавай вытворчай, аднак зацікавіць чым-небудзь сусветную эканоміку яна не ў стане.

Абмяжуюся адным прыкладам. Паводле інфармацыі начальніка ўпраўлення навукі і інавацыйнай палітыкі Міністэрства эканомікі Дзмітрыя Крупскага («Савецкая Беларусь» ад 7 сакавіка), усе беларускія дзяржаўныя прадпрыемствы выдаткавалі ў 2012 годзе на распрацоўку новай прадукцыі каля 80 млн. еўра, тады як адзін «Фольксваген» - 9,5 млрд. еўра (5% ад гадавога аб'ёму продажаў).

Пры такіх суадносінах любыя развагі пра "косткі ў горле" губляюць сэнс. Калійныя ўгнаенні, нафтапрадукты - вось і ўвесь набор канкурэнтаздольных тавараў, што вырабляюцца ў Беларусі.

**Дэіндустрыялізацыя набірае абароты**

Большасць беларусаў не працуюць, а служаць. Служаць дзяржаве і за сваё служэнне ўзнагароджваюцца па нормах, дзяржавай ж усталяваных. Па-за канкурэнцыяй тут сілавікі і чыноўнікі.

На долю дзяржсектара прыпадае каля 70% ВУП, на дзяржпрадпрыемствах працуе дзве траціны эканамічна актыўнага насельніцтва Беларусі.

Вера ў перавагі эканомікі, заснаванай на дзяржаўнай уласнасці, ўласцівая не толькі канструктару «беларускай мадэлі», але і мільёнам беларусаў.

У сакавіку 2014 года, па дадзеных НІСЭПД, больш эфектыўнай формай уласнасці дзяржаўную лічыла 38% беларусаў, прыватную - 51%. Але гэта ў тэорыі, на практыцы ж, пры адказе на пытанне «На якой прадпрыемстве вы хацелі б працаваць?» Такія перавагі сёння ўжо не фіксуюцца (гл. табліцу). Зразумець гэта нескладана, калі ўлічыць, што ўзровень падтрымкі дзяржсектара з боку бюджэту павінен скласці больш за 11 трлн. рублёў.

Пакуль кіраўнік дзяржавы даказвае перавагі ўласнай эканамічнай мадэлі, працэс дэіндустрыялізацыі ўпэўнена набірае абароты.

Не выключана, што гэты год будзе апошнім у гісторыі вытворчасці беларускіх тэлевізараў. У студзені-лютым 2014 іх вытворчасць адносна студзеня - лютага мінулага года склала 23,6 %. Пры гэтым на 9 прададзеных у Беларусі айчынных тэлевізараў прыйшоўся 91 імпартны!

Гэтак жа імкліва падае вытворчасць пральных машын. За два першыя месяцы бягучага года яна скарацілася на 60,4 % адносна паказчыку за адпаведны перыяд мінулага года. 3 100 машын, рэалізаваных гандлем, доля айчынных склала 6,2%. Спіс можна працягнуць.

**Сяргей Нікалюк**

ГАНДАЛЬ

# «ЕЎРАОПТ» ГАТОВЫ КАНКУРАВАЦЬ З СПАЖЫЎКААПЕРАЦЫЯЙ

**Гандлёвая сетка «Еўраопт» прапануе стварыць новую сістэму развазнога гандлю з 1000 аўтакрам, пры якой у кожную вёску па графіку штодня прыязджала б яе аўталаўка і аўталаўкі іншых уласнікаў.**

На думку кіраўніка сеткі, гэта дапаможа сельскім жыхарам атрымліваць больш свежых прадуктаў.

«Адзін дзень, напрыклад, - крама спажыўкааперацыі, у другі дзень - «Еўраопт», у трэці - яшчэ нейкі сеткі або індывідуальнага прадпрымальніка. Гэта створыць пэўную канкурэнцыю, якая пойдзе толькі на карысць вяскоўцам: кожны дзень у іх будзе аўталаўка, і кожны дзень яны змогуць купляць свежыя прадукты», - сказаў у інтэрв'ю БЕЛТА гендырэктар сеткі Андрэй Зубкоў.

Такім чынам Зубкоў прапануе вырашыць праблемы ў сферы сельскага гандлю, звязаныя, па яго словах, з недахопам кадраў, слабой тэхнічнай аснашчанасцю крам і нізкай абарачальнасцю тавараў, што адбіваецца на іх якасці і асартыменце. «Гандаль на сяле патрабуе пераменаў. Сельскі пакупнік не мае магчымасці набываць ні свежае мяса, ні астуджаную курыную разделку, няма добрага асартыменту садавіны і агародніны, не заўсёды ёсць свежае малако і хлеб ні ў аўтакраме, ні ў стацыянарнай сельскай краме», - адзначыў Зубкоў.

Ён распавёў, што свае паслугі райвыканкамам гандлёвая сетка ўжо прапаноўвала, але ім выдзелілі толькі 13 маршрутаў для працы аўтакрам «Еўраопта». На астатнія прапановы адказалі адмовай. «Фармулёўка адмовы вельмі простая: насельніцтва задавальняе мясцовы гандаль, мы не маем патрэбу ў паслугах «Еўраопта», аднак усе ведаюць, колькі праблем сёння ў гандлю ў вёсцы", - падкрэсліў Зубкоў. Ён дадаў, што на працягу года яго кампанія гатова арганізаваць 1000 аўтакрам па ўсёй краіне.

У адказ на прапановы «Еўраопта» аб развазной гандлі спажыўкаперацыя адказала месячнікам «Аўталаўка-2014». Пра гэта казаў старшыня Белспажыўкааперацыі Валерый Іваноў на нарадзе, што прайшло ў Гарадку.

Падкрэслівалася, што на Віцебшчыне самая вялікая сетка аўтакрам - 155. Але ці гатовыя яны канкураваць з іншымі ініцыятывамі развазной гандлю на вёсцы - вялікае пытанне.

Дзяржава ў асобе спажыўкаапераціі вельмі баіцца канкурэнцыі «Еўраопта» у развазным гандлі. Гэта было б выгадна сельскім спажыўцам. Але не выгадна функцыянерам спажыўкааперацыі.

**Л. Антонаў**

УКРАІНСКА-РАСІЙСКІ КАНФЛІКТ

# КІРАЎНІК ДЫВЕРСАНТАЎ — РАСІЙСКІ АФІЦЭР

**Служба бяспекі Украіны ўстанавіла асобу кіраўніка расійскай дыверсійнай групы, якая тэрарызуе мясцовае насельніцтва, захоплівае адміністрацыйныя будынкі, дэстабілізуе грамадска-палітычную сітуацыю ва ўсходніх абласцях Украіны.**

Ім аказаўся грамадзянін РФ, афіцэр спецназа ГРУ Генштаба Узброеных сіл Расіі Ігар Стралкоў.

Менавіта яго голас — на запісе тэлефоннай размовы з маскоўскім куратарам, апублікаваным у СМІ 14 красавіка, дзе ён дае справаздачу пра тэрор у Славянску і расстрэл аўтамабіля з украінскімі праваахоўнікамі.

У ходзе аператыўна-следчых дзеянняў затрыманыя раней супрацоўнікамі СБУ дыверсанты пазналі Стралкова як чалавека, што прыцягваў і ставіў задачы захопліваць адмінбудынкі ў Харкаве.

Устаноўлена, што ў пачатку сакавіка ён прыбыў на тэрыторыю Крыма і каардынаваў захоп расійскімі вайскоўцамі і прадстаўнікамі спецслужбаў РФ ваенных частак Узброеных Сіл Украіны, мясцовых органаў улады і кіравання аўтаноміі, выкраданне вайскоўцаў, актывістаў грамадскіх арганізацый і іншых грамадзян Украіны і замежнікаў, якія знаходзяцца ў Крыме.

Акрамя гэтага, Стралкоў вярбуе грамадзян Украіны для далейшага выкарыстання ў арганізацыі і правядзенні падрыўных акцый на тэрыторыі краіны.

Дыверсант асабіста даваў ўказанне грамадзянам Украіны «К» і «У» захапіць і ўтрымліваць будынак Харкаўскай аблдзяржадміністрацыі, вайсковыя часці і падраздзяленні праваахоўных органаў з мэтай заваладання зброяй ў Луганскай вобласці.

**Unian.net**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# РАЗАМ ЗА НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ

**У Мінгарвыканкам 25 красавіка была пададзеная заяўка на правядзенне Маршу Незалежнасці. Згодна з планам арганізатараў, 14 траўня ад 17.00 і да 17.30 запланаваны збор удзельнікаў на пляцоўцы каля Нацыянальнай бібліятэкі, потым - шэсце па праезнай частцы праспекта Незалежнасці да плошчы Незалежнасці і правядзенне там ад 19.30 мітынгу.**

Сярод заяўнікаў мерапрыемства - першы намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч, намеснік старшыні Руху «За свабоду» Алесь Лагвінец, намеснік старшыні Партыі БНФ Ігар Лялькоў, сябра грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду» Сяргей Вазняк і адказны сакратар аргкамітэту па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя" Дзяніс Садоўскі.

«Мэта правядзення Маршу Незалежнасці - публічнае выказванне падтрымкі ідэі мацавання незалежнасці Беларусі і канстытуцыйнага палажэння пра нейтралітэт», - заявіў на прэс-канферэнцыі з нагоды падавання заяўкі Юрась Губарэвіч.

Па яго словах, сёння пытанне пагрозы незалежнасці Беларусі стаіць як ніколі востра, і беларускае грамадства павінна прадэманстраваць сваё адзінства ў справе абароны суверэнітэту краіны.

На думку Губарэвіча, можна разлічваць, што ў прапанаваным фармаце ў маршы возьмуць удзел у разы больш людзей, чымсьці звычайна пад час вулічных акцый у Мінску. «Улады ўжо доўгія гады не даюць прайсціся па цэнтры гораду», - нагадаў ён. І дадаў кансалідацыйны Марш Незалежнасці немагчыма праводзіць на задворках сталіцы.

Па словах Алеся Лагвінца, арганізатары чакаюць на маршы ўдзельнікаў не толькі пад бел-чырвона-белымі, але і дзяржаўнымі чырвона-зялёнымі. «Нашае грамадства - падзеленае. Важна прыйсці да нейкага мінімуму, на які ўсе згодныя», - падкрэсліў Лагвінец, дадаўшы, што трэба рабіць крокі насустрач, і апазіцыя гэта робіць.

«Дата 14 траўня абраная невыпадкова, - падкрэсліў Ігар Лялькоў. - 19 год таму, у 1995 годзе, адбыўся рэферэндум, які замацаваў падзел на «чэсных і нячэсных», «свядомых і несвядомых», бел-чырвона-белых і чырвона-зялёных. Мы хочам пакласці канец такому падзелу. У сітуацыі, калі існуе пагроза незалежнасці, усё грамадства павінна бараніць яе».

Па яго словах, арганізатары хочуць даць «уладзе шанец разам з намі прадэманстраваць прыхільнасць да гэтай святой для кожнага беларуса справы».

Арганізатары падкрэслілі: тое, што Марш Незалежнасці мусіць прайсці пад час правядзення ў Мінску чэмпіянату свету па хакеі, дасць дадатковую магчымасць паказаць замежным заўзятарам, як у Беларусі развіваюцца падзеі, наколькі падтрымана ідэя абароны незалежнасці, у тым ліку пад чырвона-зялёнымі сцягамі.

ПАСЛАННЕ

# ПРАЗ 20 ГАДОЎ НАРЭШЦЕ ДАЙШЛО

**«Калі мы страцім рускую мову — пазбавімся розуму, а калі развучымся гаварыць на беларускай — то перастанем быць нацыяй», — заявіў Аляксандр Лукашэнка ў час паслання беларускаму народу і Нацыянальнага сходу.**

Лукашэнка разам з тым заклікаў не блытаць беларусаў з рускімі — гэта асобныя народы:

— Мы не прарасійскія, не праукраінскія і не прапольскія. Мы не рускія, мы — беларускія. Нашая краіна — Белая Русь, краіна, дзе жывуць і рускія, і ўкраінцы, літоўцы, палякі, яўрэі, татары і шмат іншых. Гэта дзеці Белай Русі, грамадзяне адной краіны.

Старшыня Таварыства беларускай мовы Алег Трусаў лічыць, што трэба выказаць падзяку прэзідэнту Расіі, што беларускі кіраўнік урэшце зразумеў важнасць захавання беларускай мовы ў краіне:

— Гэта добра, што праз 20 гадоў да Лукашэнкі дайшло. Вялікі дзякуй Уладзіміру Пуціну! Зараз ужо сталі крычаць, што тут рускамоўныя пацясняе Лукашэнка, не дае развярнуцца, не дае магчымасці на “истинно российском наречии” гаварыць. Яны ж гэта пішуць, пачытайце на іхных паганых сайтах. Ім патрэбная наша тэрыторыя. Ім жа трэба, каб іхныя атамныя ракеты пад Берасцем стаялі, вось і ўсё.

Паводле кіраўніка Беларусі, сёння з'явіліся «дзіўныя развагі пра тое, што ў нас нібыта пачынаюць заціскаць рускую мову». У сувязі з гэтым Лукашэнка заявіў, што «няма ніводнай краіны ў свеце, дзе б так беражліва ставіліся да вялікай рускай мовы і вялікай рускай культуры».

**Беларускае Радыё Рацыя**




АДУКАЦЫЯ

# «ОВЦЫ — ЭТО ВАМ НЕ СВИНЬИ»

**Почему в «сильной и процветающей» Беларуси школы вынуждены разводить овец и свиней. Районная газета Витебщины опубликовала показательную историю одной из сельских школ.**

Александр Лукашенко считает учителей надежной опорой государства. Именно так он называет педагогов в последние годы, поздравляя их с Днем знаний и профессиональным праздником. А государство, по его уверениям, «делает все возможное для усиления социальной защищенности педагогических работников и повышения престижа их труда».

Открывая в 2011 году реконструированную школу в Острошицком Городке, Лукашенко заметил, что теперь эта сельская школа ни в чем не уступает городским новостройкам.

— И таких школ у нас тысячи. Здесь вы можете получать качественное образование и всерьез заниматься спортом, расти в мире красоты, игры и творчества, — заявил он. О том, как на самом деле живут некоторые из этих тысяч школ, в одном из последних номеров написала шумилинская районная газета “Герой працы”. И хоть тон статьи под говорящим заголовком «Овцы — это вам не свиньи» скорее оптимистичный, первое же предложение звучит, как приговор: «Сегодня любое учреждение образования не может позволить себе заниматься исключительно образованием и воспитанием детей. Это, конечно, в том случае, если хочет уверенно стоять на ногах, быть материально независимой, а значит — свободной в своих планах и решениях».

Как следует из материала, для того, чтобы «уверенно стоять на ногах», Обольская школа занялась свиноводством, но в бизнес вмешалась чума.

«Учителям приходится конкурировать на рынке товаров и услуг на общих условиях, учиться предвидеть, планировать работу так, чтобы не обанкротиться. Случаются и просчеты. Вот, скажем, делали в Обольской школе ставку на выращивание свиней (казалось, беспроигрышную), а выходит, — просчитались. Но кто мог предсказать эту чуму, лихо ее бери?»

Долго по этому поводу обольские педагоги не переживали, утверждает автор, и занялись овцеводством. И не просто взялись за дело, а с мечтой выйти с поставками баранины в рестораны области. «Конкурентов в этом деле у обольских учителей пока нет», — пишет «Герой працы».

Кроме того, школа успешно продает на рынках березовый сок, а в этом году собирается освоить выращивание овощей.

«Хороший бизнесмен знает, как важно ухватить время. Поэтому сейчас все свободные силы аккумулированы в школьных теплицах: выращивают на продажу зелень. (…) К слову можно сказать и о пошиве постельного белья. За пробную партию товара они уже выручили несколько миллионов.

Наверное, есть смысл продолжать эту работу, искать свое место на рынке» — слова «бизнес» и «рынок» в статье звучат гораздо чаще, чем «учитель», «уроки» и «учеба». Впрочем, собственно о школе как об учебном заведении, вспоминается в конце статьи. Благодаря усилиям местного спонсора здесь организовали локальную компьютерную сеть, которая не имеет особого смысла из-за устаревших школьных компьютеров. Заменить их самостоятельно школа не сможет, а поэтому вся надежда на районную власть, — резюмирует автор статьи.

20 лет назад кандидат в президенты Александр Лукашенко обещал в своей предвыборной программе «отвести государство и народ от пропасти». Что у него получилось, и в каком месте по отношению к этой самой пропасти мы находимся спустя два десятилетия бессменного правления Лукашенко, можно судить и по статье в шумилинской районке.

В то время, как в Обольской школе развивают натуральное хозяйство, чтобы купить компьютеры, а в Минске открывают первую «электронную» школу, что и для нашей столицы в диковинку, к примеру, в Эстонии школы повсеместно оснащаются компьютерами и ноутбуками в рамках госпрограммы. К безлимитному и скоростному Wi-Fi в эстонской школе все давно привыкли. И для этого не нужно растить овец и шить пододеяльники.

**Кирилл Иванов**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru
Тэл. 8-02139-4-42-52, маб. + 375(29)6723842 (V),
Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 29.04.2014 у 19.20**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.